# Голас Радзімы

№ 41 (2027)
8 кастрычніка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



«Гродна-87» — так назвалі арганізатары мастацка-спартыўнае свята, што прайшло нядаўна ў горадзе над Нёманам. На ўрачыстасць сабраліся не толькі гараджане, але і госці з іншых мясцін Беларусі і Прыбалтыйскіх рэспублік. Увесь дзень на вуліцах, у скверах і парках гучала музыка, адбываліся тэатралізаваныя прадстаўленні, бойка ішоў гандаль сувенірамі, прамысловымі таварамі, садавінай і гароднінай. Цэнтральная плошча стала месцам правядзення грандыёзнай выстаўкі «Карагод кветак», у якой прынялі ўдзел садаводы-аматары, школьнікі і студэнты. Дзесяткі народных майстроў Гродзеншчыны прынялі ўдзел у кірмашы рамёстваў.

**НА ЗДЫМКАХ:** адкрыццё свята «Гродна-87»; танцуюць госці з Латвіі; юная ўдзельніца свята.

Фота А. ШАБЛЮКА.





# ЗА РАДЫКАЛЬНАЕ ЗНІЖЭННЕ ЎЗРОЎНЮ ВАЕННАГА ПРОЦІСТАЯННЯ

## *З прамовы таварыша ГАРБАЧОВА М. С.*

**Генеральны сакратар ЦК КПСС зрабіў рабочую паездку па Кольскай зямлі. Свой маршрут кіраўнік Савецкай краіны пачаў не са сталіцы вобласці — Мурманска, а з глыбінкі.**

**З аэрапорта М. С. Гарбачоў выехаў у Манчагорск. Тут ён наведаў камбінат «Поўначнікель» — буйнейшы цэнтр каляровай металургіі. Перспектывы мадэрнізацыі тэхналогіі ў гэтай важнейшай галіне індустрыі, умовы жыцця і работы чалавека на Поўначы, пытанні аховы прыроды краю — такое кола праблем, вакол якіх ішла грунтоўная размова М. С. Гарбачова з рабочымі камбіната. Гэта размова была прадоўжана затым у Доме тэхнікі Манчагорска з прадстаўнікамі камбіната «Поўначнікель», вытворчага аб'яднання «Апатыт», Лавазерскага і Коўдарскага горна-ўзбагачальных камбінатаў, іншых прадпрыемстваў і ўстаноў горна-прамысловага комплексу, вучонымі Кольскага філіяла АН СССР.**

**У Мурманску, проста на вуліцах горада, М. С. Гарбачоў гутарыў з жыхарамі аб іх праблемах і клопатах. Генеральны сакратар ЦК КПСС агледзеў новабудоўлі горада, пабываў у адным з жылых дамоў. Цёплай была сустрэча М. С. Гарбачова з экіпажам атамнага ледакола «Расія».**

**Непахісная цвярдыняй стаяў на шляху фашысцкіх ордаў паўночны край рускай зямлі. Толькі тры дні адвяло гітлераўскае камандаванне на захоп горада-порта. Але прастаялі варожыя полчышчы на подступах да важнага фарпоста краіны больш як тры гады.**

**За мужнасць і стойкасць, праяўленыя пры абароне Мурманска працоўнымі горада, воінамі Савецкай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мурманску прысвоена ганаровае званне «Горад-герой».**

**1 кастрычніка ў Доме культуры і тэхнікі імя С. М. Кірава адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны ўручэнню гораду ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка».**

**З прамовай перад прысутнымі выступіў М. С. Гарбачоў, які адзначыў, што ў слаўнай гісторыі Мурманска, як у кроплі вады, адлюстраваны лёс нашай краіны. У гады вайны Мурманск быў важнейшым портам супрацоўніцтва краін антыгітлераўскай кааліцыі. Мы не забылі і ніколі не забудзем, як сюды, прарываючыся праз гітлераўскую блакаду, прыходзілі саюзніцкія канвоі са зброяй і рыштункам для Савецкай Арміі. Мужнасць савецкіх, англійскіх і амерыканскіх маракоў, якія забяспечвалі іх праводку, была і застанецца яркім сімвалам супрацоўніцтва паміж нашымі народамі ў перыяд другой сусветнай вайны.**

**Падзеі тых гадоў абпальваюць нас гарачай праўдай беззапаветнага гераізму. Тут, на Кольскім плацдарме, у суровых умовах Крайняй Поўначы, праявілася велізарная сіла духу савецкіх воінаў і працаўнікоў тылу. Глыбокае пачуццё грамадзянскай адказнасці за лёс сацыялістычнай Радзімы надало жыхарам Мурманска сілу перасягнуць парог чалавечых магчымасцей.**

**Прапануем нашым чытачам частку прамовы М. С. Гарбачова, прысвечаную міжнародным праблемам.**

Таварышы! За працэсам перабудовы ў нашай краіне з велізарнай цікавасцю сочаць мільёны людзей ва ўсім свеце. Наш смелы выхад на грандыёзную стваральную работу, на рэвалюцыйныя пераўтварэнні, якія патрабуюць кансалідацыі ўсіх сіл краіны, — гэта магутнае сведчанне нашай упэўненасці ў тым, што мір можна захаваць, што ў чалавецтва ёсць будучыня.

Так, міжнародная абстаноўка застаецца складанай. Небяспекі, на якія мы не маем права закрываць вочы, захоўваюцца. Але сёе-тое ўсё-такі змянілася. Або пачынае мяняцца. Вядома, калі меркаваць аб абстаноўцы толькі па прамовах некаторых высокапастаўленых дзеячаў Захаду, у тым ліку па іх «праграмных» заявах, то быццам бы ўсё засталося па-ранейшаму: тыя ж антысавецкія выпады, тыя ж патрабаванні да нас даказаць сваю прыхільнасць да міру адмовай ад нашых парадкаў і прынцыпаў, тая ж канфрантацыйная мова: «таталізацыя», «камуністычная экспансія» і г.д.

Аднак праз некалькі дзён аб гэтых прамовах часта ўжо ніхто не ўспамінае, і ўжо ва ўсякім разе не змешчаныя ў іх тэзісы фігуруюць за сталом дзелавых палітычных перагавораў і кантактаў. Гэта вельмі цікавы момант, цікавая з'ява. Гэта якраз і пацвярджае, што мы маем справу з рыторыкай учарашняга дня. А жывыя, рэальныя працэсы прыйшлі ў рух. Значыць, сапраўды сёе-тое ўсё-такі мяняецца. І адным з элементаў змяненняў з'яўляецца тое, што цяпер ужо цяжка ўнушыць людзям, быццам наша знешняя палітыка, нашы ініцыятывы, наша праграма бяз'ядзернага свету — усяго толькі «прапаганда».

Прабівае сабе дарогу новая, дэмакратычная філасофія міжнародных адносін, сусветнай палітыкі. Новае мысленне з яго гуманнымі, агульначалавечымі крытэрыямі і каштоўнасцямі пранікае ў самыя розныя слаі. Сіла яго ў тым, што яно сугучна народнаму разважнаму сэнсу. А калі ўлічыць, што для сусветнай грамадскай думкі, для народаў свету характэрна вялікая занепакоенасць становішчам у свеце, то наша палітыка — гэта запрашэнне да дыялогу, да пошукаў, да лепшага свету, да нармалізацыі міжнародных адно[illegible] Вось чаму, нягледзячы на [illegible] спробы ачарніць, прынізіць значэнне нашых знешніх ініцыятыў, яны прабіваюць сабе дарогу, таму што яны сугучныя настроям шырокіх мас працоўных і ў рэалістычных палітычных колах Захаду.

Спрыяльныя тэ[illegible]цыі мацнеюць і ў міждзяржаўных адносінах. Змястоўны, шчыры і зусім не безвыніковы для абодвух бакоў дыялог па лініі Усход—Захад стаў характэрнай прыметай сённяшняй сітуацыі сусветнай палітыкі. Зусім нядаўна ўвесь свет вітаў дасягнутую ў ходзе перагавораў у Вашынгтоне дагаворанасць аб тым, што выпрацоўка пагаднення па ракетах сярэдняй дальнасці і аператыўна-тактычных ракетах будзе ў самыя кароткія тэрміны завершана і затым яно будзе падпісана на вышэйшым узроўні. Мы, такім чынам, напярэдадні буйнога кроку ў справе рэальнага ядзернага раззбраення. Калі ён будзе зроблены, гэта будзе першы крок за ўсе пасляваенныя гады. Да цяперашняга часу пакуль што або ішла гонка ўзбраенняў, або ва ўсякім разе толькі абмяжоўвалі ў нейкай меры гэту гонку ўзбраенняў, але не было яшчэ зроблена ніводнага канкрэтнага кроку па раззбраенню, па ліквідацыі ядзернай зброі.

Шлях да гэтага ўзаемнага савецка-амерыканскага рашэння быў цяжкім. Пераломнай падзеяй на гэтым шляху стаў Рэйк'явік. Жыццё пацвердзіла правільнасць нашай ацэнкі сустрэчы ў ісландскай сталіцы. Насуперак усякім панічным шараханням, скептычным заявам і прапагандзе, што крычала аб «правале», падзеі пайшлі ў напрамку, прыкладзеным Рэйк'явікам. Яны пацвярджаюць правільнасць той ацэнкі, якая была намі дадзена літаральна праз сорак мінут пасля таго, як гэта сустрэча завяршылася драматычна, як вы гэта помніце.

Рэйк'явік сапраўды стаў паваротным пунктам сусветнай гісторыі, паказаў магчымасць паляпшэння сусветнай абстаноўкі. Стварылася іншая сітуацыя, і ўжо ніхто пасля Рэйк'явіка не мог дзейнічаць так, быццам нічога не адбылося. І для нас ён быў падзеяй, якая пацвердзіла правільнасць выбранага намі курсу, неабходнасць і канструктыўнасць новага палітычнага мыслення.

Да поўнага выкарыстання закладзенага ў Рэйк'явіку патэнцыялу яшчэ далёка, але ўжо цяпер абазначыліся праспекты не толькі па РСД і АТР. Намеціўся рух у пытанні аб забароне ядзерных выпрабаванняў, хутка пачнуцца поўнамаштабныя перагаворы па гэтай праблематыцы. І відавочна, што наш мараторый не прайшоў упустую. Гэта таксама быў нялёгкі крок для нас. Ён выклікаў і ўзмацніў усюды ў свеце патрабаванні пакончыць з выпрабаваннямі.

Не бяруся прадказваць ход падзей. Не ўсё залежыць ад нас. Няма сумнення, што першыя вынікі, дасягнутыя гэтымі днямі ў Вашынгтоне, будучая сустрэча з прэзідэнтам ЗША могуць выклікаць своеасаблівую мірную «ланцуговую рэакцыю» ў галіне стратэгічных наступальных узбраенняў і нявываду зброі ў космас, а таксама ў многім іншым, што сёння патрабавальна стукаецца ў парадак дня міжнароднага дыялогу.

Такім чынам, ёсць прыметы паляпшэння міжнароднай абстаноўкі, але ёсць, паўтараю, і трывожныя моманты, якія могуць выклікаць рэзкае абвастрэнне сітуацыі ў свеце.

Было б з нашага боку безадказна недаацэньваць сілы супрацьўлення пераменам, сілы гэтыя ўплывовыя, асляпленыя нянавісцю да ўсяго прагрэсіўнага і вельмі агрэсіўныя. Яны ёсць у розных колах заходняга свету, але найбольшая іх канцэнтрацыя сярод тых, хто непасрэдна ідэалагічна і палітычна абслугоўвае ваенна-прамысловы комплекс і ад яго, як кажуць, корміцца.

Вось нядаўні выразны прыклад. 10 верасня ў аб'яднаным эканамічным камітэце кангрэса ЗША пачалася серыя слуханняў на тэму: «Эканамічныя рэформы Гарбачова». Удзельнічаюць сенатары і кангрэсмены. Слуханні і адкрытыя, і закрытыя. Выступаюць прадстаўнікі адміністрацыі, аналітыкі-саветолагі з ЦРУ, з міністэрства абароны ЗША, з розных навуковых цэнтраў. І ўвогуле гэта нармальна. Нават добра, што ў Амерыцы на такім узроўні хочуць грунтоўна разабрацца ў тым, што адбываецца ў Савецкім Саюзе і што азначае наша перабудова для астатняга свету, у тым ліку і для Злучаных Штатаў.

Выказваюцца розныя погляды, у тым ліку і прама процілеглыя. Ёсць у іх нямала слушнага, аб'ектыўнага, з некаторымі можна сур'ёзна падыскусіраваць, а да сяго-таго, я бы нават сказаў, не грэх і прыслухацца. Члены гэтага камітэта пачулі і такую думку, што, маўляў, Злучаным Штатам «трэба вітаць перабудову», бо яна прывядзе да зніжэння пагрозы ядзернага сутыкнення.

Але на гэтых слуханнях адміністрацыі і кангрэсу даюцца і іншыя рэкамендацыі. Вось адна з іх, амаль даслоўна: калі Савецкі Саюз дасягне пастаўленых XXVII з'ездам КПСС рубяжоў, то гэта перш за ўсё ўмацуе яго прэстыж на міжнароднай арэне, павысіць аўтарытэт КПСС унутры краіны і за мяжой і... тым самым павялічыць пагрозу нацыянальнай бяспецы ЗША. Вось, аказваецца, які вывад можна зрабіць. Далей: поспех перабудовы можа аслабіць палітычнае і эканамічнае адзінства Заходняй Еўропы, паколькі СССР выйдзе на яе рынак. Расшырыцца палітычны ўплыў СССР у краінах, якія [illegible]і на шлях развіцця, таму [illegible] можа быць павялічана ваенная і іншая дапамога ім з яго боку, а некаторыя з іх захочуць пераняць мадэль савецкай эканомікі, калі яна акажацца канкурэнтаздольнай у адносінах да эканомікі ЗША.

І я[illegible] перабудова небяспечная т[illegible] што яна ўмацуе пазіцыі СССР у міжнародных фінансавых і эканамічных арганізацыях. Асаблівую ж пагрозу бачаць гэтыя аналітыкі ва ўзрослым уплыве Савецкага Саюза на сусветнай арэне, звязаным з яго ініцыятывамі ў галіне кантролю над узбраеннямі, а таксама з перспектывай падпісання дагавора па сярэдніх ракетах.

Паслухайце, які ў выніку робяць вывад: нацыянальным інтарэсам ЗША **адпавядаў бы правал** сацыяльна-эканамічнай палітыкі, праводзімай СССР пад кіраўніцтвам КПСС і Савецкага ўрада.

Каб «дапамагчы» гэтаму правалу, даюцца наступныя рэкамендацыі: фарсіраваць праграмы дарагіх сістэм ПРА у рамках САІ і ўцягваць СССР у гонку ўзбраенняў, каб скаваць яго перабудову. Выдзеліць яшчэ больш сродкаў на стварэнне дарагой высокадакладнай зброі і ваенных сістэм касмічнага базіравання; з той жа мэтай павялічыць аб'ём ваеннай і іншай дапамогі групоўкам і рэжымам, якія вядуць актыўную барацьбу з урадамі краін, падтрымліваемых Савецкім Саюзам; процідзейнічаць устанаўленню СССР эканамічных і гандлёвых сувязей з іншымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі; поўнасцю выключыць магчымасць перадачы СССР і іншым сацыялістычным краінам перадавой тэхналогіі, узмацніць кантроль за дзейнасцю КАКОМ, уваходзячых у яго дзяржаў.

Вось так. Адкрыта і цынічна. І такую пазіцыю мы таксама не можам не прымаць у разлік. Тым больш, што запэўненні ў міралюбнасці, якія мы часта чуем з вуснаў афіцыяльных асоб ЗША, як гаворыцца, на адным дыханні суправаджаюцца хвалой «палітыцы сілы» і аргументацыяй, вельмі падобнай да той, якую ўжываюць аўтары працытаваных мной рэкамендацый.

Мілітарысцкія, антысавецкія сілы яўна заклапочаны — як бы цікавасць у народзе і ў палітычных колах Захаду да таго, што адбываецца цяпер у Савецкім Саюзе, і рост разумення яго знешняй палітыкі не сцерлі штучна створаны «вобраз ворага», вобраз, які яны бессаромна эксплуатуюць ужо дзесяткі гадоў. Ну што ж, гэта іх клопаты. Мы будзем цвёрда ісці па шляху перабудовы і новага мыслення.

Таварышы! Выступаючы ў Мурманску, сталіцы Савецкага Запаляр'я, дарэчы паглядзець на ідэю агульначалавечага супрацоўніцтва і з пункту погляду сітуацыі ў паўночнай частцы планеты. Для гэтага ёсць, на наш погляд, некалькі важкіх прычын.

Арктыка — гэта не толькі Паўночны Ледавіты акіян, але і паўночныя ўскраіны трох мацерыкоў: Еўропы, Азіі і Амерыкі. Тут змыкаюцца Еўраазіяцкі, Паўночнаамерыканскі і Азіяцка-Ціхаакіянскі рэгіёны, сыходзяцца граніцы, перасякаюцца інтарэсы дзяржаў як належачых да процілеглых ваенных блокаў, так і не ўваходзячых у іх.

Поўнач — гэта і праблема бяспекі Савецкага Саюза, яго паўночных граніц. У гэтых адносінах у нас ёсць гістарычны вопыт, які дорага нам каштаваў. Мурманчане добра помняць і 1918, і 1919, і 1941—1945 гады.

Войны гэтага стагоддзя з'явіліся цяжкім выпрабаваннем і для краін уласна Паўночнай Еўропы. І, як нам здаецца, яны зрабілі для сябе сур'ёзныя вывады. Іменна таму, відаць, грамадскі клімат у гэтых краінах больш успрымальны да новага палітычнага мыслення.

Знамянальна, што гістарычная Нарада па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе адбылася ў адной з паўночных сталіц — у Хельсінкі. Знамянальна, што наступны буйны крок у развіцці гэтага працэсу — першая прынцыповая дагаворанасць аб мерах давер'я — зроблены ў другой паўночнай сталіцы — Стакгольме. Рэйк'явік стаў сімвалам надзеі, што ядзерная зброя не вечная і што чалавецтва не асуджана жыць пад гэтым дамоклавым мячом.

З імёнамі вядомых палітычных дзеячаў Паўночнай Еўропы звязаны буйныя ініцыятывы ў пытаннях міжнароднай бяспекі і раззбраення. Гэта Урха Кеканен. Гэта Улаф Пальме, гібель якога ад рукі падлага забойцы глыбока ўзрушыла савецкіх людзей. Гэта Калеві Сорса, які на працягу многіх гадоў узначальвае Кансультатыўны савет Сацінтэрна. Мы вітаем дзейнасць аўтарытэтнай Міжнароднай камісіі па навакольнаму асяроддзю і развіццю на чале з прэм'ер-міністрам Нарвегіі Гру Харлем Брундтланд.

У Савецкім Саюзе належным чынам ацэньваюць той факт, што Данія і Нарвегія, будучы членамі НАТО, у аднабаковым парадку адмовіліся размяшчаць у мірны час на сваёй тэрыторыі замежныя ваенныя базы і ядзерную зброю. Гэта пазіцыя, пры паслядоўным правядзенні яе ў жыццё, з'яўляецца істотнай для пераадолення напружанасці ў Еўропе.

Аднак гэта толькі частка карціны.

З Поўначы Зямлі, з Арктыкі, як, бадай, ніадкуль яшчэ, прыметная агульнасць, узаемазвя-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ЗА РАДЫКАЛЬНАЕ ЗНІЖЭННЕ ЎЗРОЎНЮ ВАЕННАГА ПРОЦІСТАЯННЯ

## *З прамовы таварыша ГАРБАЧОВА М. С.*

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

занасць інтарэсаў усяго нашага свету. Бо Арктыка і Паўночная Атлантыка не толькі «кухня надвор'я», дзе зараджаюцца цыклоны і антыцыклоны, якія ўплываюць не толькі на клімат у Еўропе, ЗША і Канадзе, але нават і ў Паўднёвай Азіі і Афрыцы. І ў той жа час тут выразна адчуваецца халодны подых «палярнай стратэгіі» Пентагона. На падводных і надводных караблях сканцэнтраваны гіганцкі патэнцыял ядзернага разбурэння, які дзейнічае на палітычны клімат усяго свету і ў сваю чаргу можа здэтаніраваць ад выпадковага ваенна-палітычнага збою ў любым іншым раёне зямнога шара.

Мілітарызацыя гэтай часткі свету набывае пагражальны характар. Не могуць не трывожыць паведамленні аб тым, што НАТО на выпадак пагаднення аб ліквідацыі РСД і АТР рыхтуецца да адпрацоўкі прымянення з Паўночнай Атлантыкі крылатых ракет марскога і паветранага базіравання. Гэта азначала б дадатковую пагрозу і для нас, і для ўсіх краін Паўночнай Еўропы.

У Грэнландыі ў парушэнне Дагавора па ПРА пастаўлена на баявое дзяжурства новая РЛС — адзін з элементаў праграмы «зорных войнаў». На канадскай Поўначы выпрабоўваюцца амерыканскія крылатыя ракеты. Не так даўно ўрад самой Канады распрацаваў шырокую праграму нарошчвання ваенных сіл у Арктыцы. Узрастае ваенная актыўнасць ЗША і НАТО ў раёнах, якія непасрэдна прымыкаюць да Савецкага Запаляр'я. Павышаецца ўзровень ваеннай прысутнасці НАТО ў Нарвегіі і Даніі.

Таму, знаходзячыся ў Мурманску, на парозе Арктыкі і Паўночнай Атлантыкі, хацеў бы запрасіць, у першую чаргу, дзяржавы гэтага рэгіёна да абмеркавання даўно наспеўшых тут пытанняў бяспекі.

Як мы сабе гэта ўяўляем? Можна ісці адначасова шляхам і двухбаковага, і шматбаковага супрацоўніцтва. Мне не раз прыходзілася выказвацца на тэму аб «агульным еўрапейскім доме». Патэнцыял сучаснай цывілізацыі дазваляе абжыць Арктыку на карысць народнагаспадарчых і іншых чалавечых інтарэсаў і прыарктычных дзяржаў, і Еўропы, і ўсёй міжнароднай супольнасці. А для гэтага ў першую чаргу трэба вырашыць праблемы бяспекі, якія накапіліся тут.

Савецкі Саюз выступае **за радыкальнае зніжэнне ўзроўню ваеннага процістаяння** ў рэгіёне. Няхай Поўнач планеты, Арктыка стануць зонай міру. Няхай Паўночны полюс будзе полюсам міру. Мы прапануем усім зацікаўленым дзяржавам пачаць перагаворы аб абмежаванні і скарачэнні маштабаў ваеннай актыўнасці на Поўначы ў цэлым — як ва ўсходнім, так і ў заходнім паўшар'і.

Што канкрэтна мы маем на ўвазе?

**Першае. Аб бяз'ядзернай зоне ў Паўночнай Еўропе.** Калі б такое рашэнне было прынята, Савецкі Саюз, як ужо заяўлялася, гатоў выступіць гарантам. Ад дзяржаў-удзельніц будзе залежаць, як больш мэтазгодна аформіць гэту гарантыю: шматбаковымі або двухбаковымі пагадненнямі, урадавымі заявамі або іншым чынам.

Адначасова Савецкі Саюз пацвярджае сваю гатоўнасць абмеркаваць з кожнай з зацікаўленых дзяржаў або групай дзяржаў усе праблемы, звязаныя са стварэннем бяз'ядзернай зоны, у тым ліку магчымыя меры ў прымяненні да савецкай тэрыторыі. Мы маглі б пайсці дастаткова далёка, у прыватнасці, вывесці з саставу Савецкага Балтыйскага флоту падводныя лодкі, аснашчаныя балістычнымі ракетамі.

Як вядома, раней Савецкі Саюз у аднабаковым парадку дэманціраваў пускавыя ўстаноўкі ракет сярэдняй дальнасці на Кольскім паўвостраве і большую частку пускавых установак такіх ракет на астатняй тэрыторыі Ленінградскай і Прыбалтыйскай ваенных акруг. З гэтых акруг перадыслацыравана нямала аператыўна-тактычных ракет. У раёнах, блізкіх да граніц скандынаўскіх краін, абмежавана правядзенне ваенных вучэнняў. Пасля заключэння пагаднення аб «двайным глабальным нулі» адкрыюцца дадатковыя магчымасці для ваеннай разрадкі і ў гэтым рэгіёне.

**Другое.** Мы вітаем ініцыятыву прэзідэнта Фінляндыі М. Койвіста **аб абмежаванні ваенна-марской актыўнасці** ў прылягаючых да Паўночнай Еўропы морах. Са свайго боку, Савецкі Саюз прапануе пачаць кансультацыі паміж Арганізацыяй Варшаўскага Дагавора і НАТО аб скарачэнні ваеннай актыўнасці і абмежаванні маштабаў дзейнасці ВМС і ВПС у акваторыях Балтыйскага, Паўночнага, Нарвежскага і Грэнландскага мораў, а таксама аб распаўсюджванні на іх мер давер'я.

Сярод такіх мер маглі б быць і дагаворанасці аб абмежаванні саперніцтва ў процілодачнай зброі, паведамленне аб буйных вучэннях ваенна-марскіх і ваенна-паветраных сіл, запрашэнне на буйныя вучэнні ВМС і ВПСназіральнікаў усіх дзяржаў — удзельніц еўрапейскага працэсу. Гэта магло б быць першым крокам да распаўсюджвання мер давер'я на ўсю Арктыку, на паўночныя раёны ў абодвух паўшар'ях.

Разам з тым мы прапануем разгледзець пытанне аб забароне ваенна-марской дзейнасці ва ўзаемна ўзгодненых зонах міжнародных праліваў і наогул на шляхах інтэнсіўнага суднаходства. З гэтай мэтай можна было б правесці сустрэчу прадстаўнікоў зацікаўленых дзяржаў, напрыклад, у Ленінградзе.

Узнікае і такая думка ў сувязі з ідэяй бяз'ядзернай зоны. Цяпер паўночныя краіны, гэта значыць Ісландыя, Данія, Нарвегія, Швецыя і Фінляндыя не маюць ядзернай зброі. Нам вядома іх занепакоенасць тым, што на Новай Зямлі ёсць наш палігон для правядзення ядзерных выбухаў.

Мы думаем над тым, як вырашыць гэту праблему, складаную для нас, паколькі вельмі многа сродкаў у гэта было ўкладзена. Аднак, шчыра кажучы, вырашыць яе можна было б адразу і назаўсёды, калі б Злучаныя Штаты згадзіліся на спыненне ядзерных выпрабаванняў або хоць для пачатку — на звядзенне іх да крайняга мінімуму па колькасці і магутнасці.

**Трэцяе.** Савецкі Саюз надае вялікае значэнне **мірнаму супрацоўніцтву па асваенню рэсурсаў Поўначы, Арктыкі.** Тут крайне важны абмен вопытам, ведамі. Сумеснымі намаганнямі можна было б распрацаваць агульную канцэпцыю рацыянальнага развіцця паўночных раёнаў. Мы прапануем, напрыклад, дагаварыцца аб распрацоўцы адзінай энергетычнай праграмы для Поўначы Еўропы. Запасы такіх энерганосьбітаў, як нафта і газ, паводле наяўных даных, тут сапраўды неабсяжныя. Аднак іх здабыча звязана з надзвычайнымі цяжкасцямі, з неабходнасцю стварэння унікальных тэхнічных збудаванняў, здольных вытрымліваць палярную стыхію. І было б больш разумна каапеapprox вацца ў гэтай справе, што дапамагло б знізіць і матэрыяльныя, і іншыя затраты. У нас ёсць інтарэс да прыцягнення, напрыклад, Канады і Нарвегіі да стварэння змешаных фірм і прадпрыемстваў для распрацовак нафты і газу на нашым паўночнаморскім шэльфе. Мы гатовы да адпаведных перагавораў і з іншымі дзяржавамі.

Гатовы мы і да сумеснай работы па выкарыстанню рэсурсаў Кольскага паўвострава, па ажыццяўленню іншых буйных дзелавых праектаў у самых розных формах, уключаючы сумесныя прадпрыемствы.

**Чацвёр.** Велізарнае агульначалавечае значэнне мае **навуковае вывучэнне Арктыкі.** У нас ёсць вельмі багаты вопыт, мы гатовы ім падзяліцца. У сваю чаргу, для нас цікавымі з'яўляюцца даследаванні, якія вядуцца ў іншых прыарктычных і па... ных дзяржавах. З Канадай ... ўжо маем праграму навуковых абменаў.

Прапануем правесці ў 1988 годзе канферэнцыю прыарктычных дзяржаў па каардынацыі навуковых даследаванняў у Арктыцы. Там можна было б разгледзець пытанне аб стварэнні сумеснага арктычнага навуковага савета. Месцам правядзення канферэнцыі мог бы стаць, калі партнёры згодзяцца, Мурманск.

Патрабуюць спецыяльнай увагі пытанні, звязаныя з інтарэсамі карэннага насельніцтва Поўначы, з вывучэннем яго этнічных асаблівасцей, развіццём культурных сувязей паміж паўночнымі народнасцямі.

**Пятае.** Асаблівае значэнне мы надаём **супрацоўніцтву краін Поўначы ў справе аховы навакольнага асяроддзя.** Надзённая неабходнасць тут відавочная. Вопыт сумесных мер па ахове марскога асяроддзя на Балтыцы, якія ажыццяўляюцца цяпер камісіяй сямі прыбярэжных дзяржаў, варта было б распаўсюдзіць на ўсю акіянскую і марскую акваторыю Поўначы планеты.

Савецкі Саюз прапануе сумесна распрацаваць аб'яднаны комплексны план аховы навакольнага асяроддзя Поўначы. Паўночнаеўрапейскія краіны маглі б паказаць прыклад іншым, дагаварыўшыся аб устанаўленні сістэмы кантролю за станам навакольнага асяроддзя і радыяцыйнай бяспекі ў рэгіёне. Трэба спяшацца зберагчы прыроду тундры і лесатундры, паўночных таежных раёнаў.

**Шостае.** Праз Арктыку праходзіць найкарацейшы марскі шлях з Еўропы на Далёкі Усход, у Ціхі акіян. Думаю, што ў залежнасці ад таго як пойдзе справа з нармалізацыяй міжнародных адносін, **мы маглі б адкрыць Паўночны марскі шлях для замежных суднаў** пры нашым забеспячэнні ледакольнай праводкай.

Такія нашы прапановы. Такі канкрэтны змест савецкай знешняй палітыкі на паўночным напрамку. Такія нашы намеры і планы на будучыню. Вядома, забеспячэнне бяспекі і развіццё супрацоўніцтва на Поўначы — справа міжнародная і залежыць далёка не ад нас адных. Мы гатовы абмяркоўваць любыя сустрэчныя ідэі і прапановы. Галоўнае — весці справы такім чынам, каб клімат тут вызначаўся цёплым Гальфстрымам агульнаеўрапейскага працэсу, а не палярным подыхам накопленых падазрэнняў і забабонаў.

І ў чым усе могуць быць абсалютна ўпэўнены — дык гэта ў глыбокай і безумоўнай зацікаўленасці Савецкага Саюза ў тым, каб Поўнач планеты, яго палярныя і прыпалярныя раёны, усе паўночныя краіны ніколі больш не сталі арэнай вайны, каб тут утварылася сапраўдная зона міру і плённага ўзаемадзеяння.

# ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ АПЕРАЦЫЙ ДОКТАРА СКОБЕЮСА





**Старшы навуковы супрацоўнік кафедры уралогіі і аператыўнай нефралогіі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Ізаокас Скобеюс пачынаў пасля інстытута радавым урачом-уролагам, але яму хацелася сказаць у медыцынскай навуцы сваё слова. На яго дапытлівы розум і настойлівы характар урача звярнуў увагу загадчык кафедры уралогіі Мінскага медыцынскага інстытута, акадэмік АН БССР Мікалай Саўчанка. Пад яго кіраўніцтвам Скобеюс рабіў свае першыя крокі ў трансплантацыі органаў, удзельнічаў у славутай аперацыі, калі донарская нырка «прыляцела» ў Мінск па лініі «Інтэртрансплanта» са Стакгольма.**

**Яго кандыдацкая дысертацыя прысвечана ішэмічнай хваробе нырак, а доктарская, на афармленне якой нялёгка выкройваць час у працоўным графіку, — аперацыйнаму лячэнню мегаурэтэра. Заслугу Скобеюса ў распрацоўцы гэтай праблемы цяпер ацэньвае экспертная камісія па справах вынаходстваў і адкрыццяў. Тая самая, якая ўжо аднойчы пацвердзіла навізну прапанаванага ім метаду выдалення з нырак дробных камянёў пры дапамозе спецыяльных каагулятараў.**

**Такі спектр навуковай і практычнай дзейнасці доктара Скобеюса, які ні да адной з праведзеных ім дзвюх тысяч аперацый не аднёсся, як да звычайнай.**

**НА ЗДЫМКАХ: у гэтай бальніцы працуюць І. СКОБЕЮС і старшы навуковы супрацоўнік аддзялення трансплантацыі ныркі У. ВАЙТОВІЧ; доктар І. СКОБЕЮС са сваімі маленькімі пацыентамі.**

**Фота У. ШУБЫ.**

**7 ОКТЯБРЯ — ДЕНЬ КОНСТИТУЦИИ СССР**

# «ВИЗИТНЫЕ КАРТОЧКИ» ПРОТИВОПОЛОЖНЫХ СОЦИАЛЬНЫХ СИСТЕМ

В нынешнем году Советский Союз и Соединенные Штаты Америки отмечают юбилеи своих конституций: соответственно 200-летие основного закона США и 10-летие вступления в действие новой Конституции СССР. Круглые даты, естественно, дали пищу для многочисленных комментариев, анализов и сопоставлений, причем отнюдь не только в странах-«юбилярах».

Интерес к таким сопоставлениям в принципе вполне объясним, и не только из-за круглых дат. СССР и США являются ведущими державами противоположных социальных систем — мира социализма и мира капитализма. Сравнивая «визитные карточки» этих держав — их конституции, можно глубже понять социальные альтернативы, предлагаемые обеими системами человечеству.

Чем же, однако, принципиально отличаются советская и американская конституции?

Но прежде чем ответить на такой вопрос, следует, вероятно, разобраться в другом: насколько допустимо сравнение этих двух документов, разделенных во времени почти двумя столетиями? Думается, что такое сравнение вполне возможно, поскольку американская конституция являет собой не исторический манускрипт, а действующий основной закон страны, к тому же значительно усовершенствованный и дополненный за годы, прошедшие после его принятия.

Итак, главным, принципиальным различием между советской и американской конституциями является их противоположная трактовка «экономической базы» демократии — отношения к собственности. Если в основном законе США провозглашается **право владения и распоряжения всеми видами частной собственности,** то Конституция СССР, напротив, закрепляет **принцип общественной собственности на средства производства,** то есть на землю, заводы, фабрики, банки и т. д. В освобождении труда от эксплуатации, опирающейся на частную собственность, социализм видит главное условие свободы личности, ибо там, где нет равенства во владении средствами производства, воля одного человека имеет возможность ущемить волю другого, свобода одного оборачивается подчинением для других.

Социальная противоположность отношения к собственности находит свое адекватное отражение и в разности подходов двух конституций к определению правового и фактического положения личности в обществе.

Известно, например, что в первоначальном тексте американской конституции, одобренном конвентом и ратифицированном штатами, вообще не содержалось никаких положений о правах и свободах человека. Лишь под нажимом общественного мнения в 1789—1791 годах были приняты знаменитые 10 поправок к основному закону, вошедшие в историю как «Билль о правах».

Для конца XVIII века «Билль» был, безусловно, выдающимся демократическим завоеванием. Мы знаем также, что с тех пор он был существенно усовершенствован и дополнен, хотя речь главным образом шла не о расширении перечня прав и свобод граждан, а о расширении круга тех, на кого распространялось его действие. Скажем, «поправки гражданской войны» — 13-я, 14-я и 15-я — содержали положения, которые должны были гарантировать равные права гражданам бывшим рабам-неграм; после второй мировой войны вступили в действие поправки, в соответствии с которыми право участия в избрании коллегии выборщиков президента было предоставлено жителям федерального округа Колумбия, а также снижен возрастной ценз (до 18 лет) для участия в федеральных выборах.

И все же даже беглый анализ сегодняшнего текста американской конституции дает право говорить о ее социальной ограниченности. Фактически в ней содержится лишь одно социально-экономическое право — владения собственностью. В отличие от Конституции СССР конституция США не знает таких, например, важнейших для человека прав, как право на труд, на отдых, на бесплатные образование и медицинское обслуживание, на социальное обеспечение, на жилище. До сих пор принцип равенства всех граждан перед законом не распространяется на женщин.

И наконец, американский конституционализм знает только один вид гарантий осуществления прав и свобод человека — судебные гарантии, то есть право частного обращения в суд. Само же государство в лице его атторнеев (прокуроров) не только не обязано, но и не уполномочено законом ограждать права граждан от нарушения, за исключением случаев нарушения права голосования по признаку расовой принадлежности.

Принципиально иной подход к правовому положению личности характерен для Конституции СССР. В ней закреплены не только практически все политические и личные свободы, что и в основном законе США (свобода совести, слова, печати, собраний, неприкосновенность личности и жилища, тайна переписки, телефонных переговоров, телеграфных сообщений), но и содержится целый ряд принципиально важных прав, обойденных законодательством США. В их числе, например, такие важнейшие гражданские права, как право на участие в управлении государственными и общественными делами, в обсуждении и принятии решений общегосударственного и местного значения, право вносить в государственные органы предложения об улучшении их деятельности и т. д. Одновременно Конституция СССР закрепляет и такие основополагающие демократические принципы, как равенство всех граждан перед законом, предоставление женщинам равных прав с мужчинами, равноправие всех национальностей и рас.

Провозглашая широкий объем и спектр прав и свобод человека, Основной закон СССР одновременно устанавливает круг гарантий для их реального осуществления. Прежде всего это материальные гарантии, предоставляемые государством. Их содержание можно проиллюстрировать хотя бы на примере права на труд. «Это право, — записано в статье 40 Конституции, — обеспечивается социалистической системой хозяйства, неуклонным ростом производительных сил, бесплатным профессиональным образованием, повышением трудовой квалификации и обучением новым специальностям, развитием систем профессиональной ориентации и трудоустройства».

Помимо этого, в той же статье 40 перечислены и дополнительные гарантии осуществления этого права: получение гарантированной работы с оплатой труда в соответствии с его количеством и качеством, право на выбор профессии, рода занятий и работы в соответствии с призванием, способностями, профессиональной подготовкой и образованием. Конституция СССР поощряет и индивидуальную трудовую деятельность, основанную «исключительно на личном труде граждан и членов их семей», что, кстати, было недавно регламентировано специальным законом, вступившим в силу с 1 мая нынешнего года.

Разумеется, помимо материальных гарантий Основной закон СССР содержит также судебные гарантии реализации прав населения. Каждый гражданин имеет, в частности, право на судебную защиту от посягательств на свою жизнь и здоровье, имущество и личную свободу, честь и достоинство.

И в заключение о том, как воплощаются положения конституций США и СССР в жизнь. По словам бывшего американского сенатора Чарльза Метайеса, выработанный двести лет назад в Филадельфии документ «оставлял желать лучшего». Но самое главное, считает Метайес, состоит в том, что высокие слова о «свободе и равенстве» не выдержали испытания временем.

Есть свои проблемы и у советского общества. Как заявил, выступая летом нынешнего года на международной конференции «Развитие социалистического конституционного строя», секретарь ЦК КПСС Анатолий Лукьянов, «застойные явления, которые имели место на рубеже 70-х—80-х годов... выявили расхождения между Конституцией и общественной практикой, серьезные сбои в механизме управления экономикой, отступления от принципов социальной справедливости. Получили распространение формализм и заорганизованность в вовлечении трудящихся в управление страной. Статистика заседаний стала заменять живое дело. Серьезные недостатки накопились и в функционировании институтов социалистической демократии».

Нынешний курс советского руководства, получивший внутри страны и за рубежом название «перестройка», как раз и призван восстановить и упрочить полновесность всех постулатов, провозглашаемых Конституцией СССР. Главным рычагом, обеспечивающим необратимость этого процесса, в Советском Союзе считают дальнейшую демократизацию советского общества, наполнение ее еще более глубоким социалистическим содержанием его выдержавших испытание временем принципов свободы и равенства.

**Валерий ТЕЛЕГИН.**



## НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ

## БЕЛОРУСЫ НА ЧУКОТКЕ

**Много лет обмениваются делегациями трудовые коллективы Чукотки и Белоруссии. На этот раз на Чукотку приехали могилевчане — делегация с Горецкого района. С Чукоткой их связывает еще и память о земляке — Михаиле Мандрикове. В сентябре 1919 года белорус М. Мандриков в этих далеких от родины краях принимал участие в борьбе с белогвардейцами, устанавливал Советскую власть в Анадырском крае, был первым председателем Анадырского ревкома. Здесь он и погиб от рук врагов. Сегодня одна из улиц Анадыря носит имя Мандрикова.**

**Во многих хозяйствах Чукотки побывали белорусы. Одно из них — совхоз имени XXII съезда КПСС Анадырского района. В этом году промысловики хозяйства должны сдать государству 17 000 центнеров лососевых и 3 200 килограммов кетовой икры. Во время путины каждый день выходят рыбаки в море. Белорусские гости увидели, что в таких суровых краях людям помогают жить и трудиться дружба и взаимовыручка.**

**НА СНИМКЕ: белорусы из Горецкого района Могилевской области у оленеводов; приглашение к чаю. Кок камбуза Валентин ТУРЕНКО; очередная тонна рыбы...**

**Фото Л. КЛИМАНСКОГО.**





### ЗНАХОДКІ НЕ ТОЛЬКІ ДАЮЦЬ АДКАЗЫ, АЛЕ І СТАВЯЦЬ ПЫТАННІ

# ПАДАРОЖЖА Ў «СТАРЫ ГОМЕЛЬ»

Напэўна, няма ў Гомелі больш прыгожага месца, чым парк над Сожам. Арыгінальныя архітэктурныя формы XVIII — XIX стагоддзяў, цікавая ландшафтная арганізацыя тэрыторыі ў спалучэнні з унікальным раслінным светам (тут ёсць як мясцовыя драўнінныя пароды, так і экзатычныя: сібірскі кедр, японская лістоўніца, бальзамічная піхта, чорная хвоя, заходняя туя, коркавыя дрэвы і інш.) стварылі парку шырокую вядомасць. Гомельскі парк культуры і адпачынку імя А. Луначарскага — месца гістарычнае. З упэўненасцю можна сказаць, што прыгожа тут было і больш дзвюх тысяч год назад, калі на высокім і стромым беразе Сожа пры ўпадзенні ў яго рэчкі Гаміюк узнікла гарадзішча. Месца для пасялення было не толькі прыгожае, але і зручнае: водны шлях звязваў старажытных жыхароў Пасожжа з іншымі мясцінамі, а стромкія адхілы ўмацоўвалі абараназдольнасць пасялення. Яго непрыступнасць яшчэ больш павялічвалася штучным валам і дугападобным ровам, запоўненым вадой.

У канцы мінулага тысячагоддзя нашай эры на тэрыторыі сённяшняга парку жылі радзімічы — адно з вядомых у летапісах усходнеславянскіх плямён. Шмат вады ўцякло з той пары, і многае змянілася. Паступова ўсё больш мелкай становілася рэчка Гаміюк — прыток Сожа, якая калісьці выконвала ролю своеасаблівай гавані, куды, відавочна, заходзілі гандлёвыя лодкі, што курсіравалі ўверх і ўніз па Сожу. Роў ужо даўно засыпаны зямлёй, цяпер на яго месцы — галоўная плошча горада. Складаным і драматычным аказаўся лёс Гомеля. Неаднаразова пераходзіў ён з рук у рукі, часта знішчаўся амаль дашчэнту. Былі пад Гомелем мангола-татарскія орды, аваладвалі ім польска-літоўскія атрады, змагаліся за яго казацкія войскі верных паплечнікаў правадыра вызваленчай барацьбы ўкраінскага і беларускага народаў Багдана Хмяльніцкага — А. Нябабы, І. Залатарэнкі, С. Падбайлы. У час Вялікай Айчыннай вайны захопнікі ператварылі парк у могілкі для нямецкіх салдат.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя польскі магнат М. Чартарыйскі ўзвёў на месцы былога радзімічкага гарадзішча драўляны замак і абарончыя збудаванні. Новы ўладальнік Гомеля, генерал-фельдмаршал П. Румянцаў, якому Гомель быў падараваны рускай царыцай Кацярынай II «для пацехі», заклаў у 1785 годзе на месцы старых пабудоў палац, які стаў сапраўдным помнікам архітэктуры, гісторыі і мастацтва. Палац дабудоўваўся сямействам Румянцавых, якім Гомель належаў да 1834 года, і потым, калі стаў уласнасцю князя Паскевіча.

У сярэдзіне XIX — пачатку XX стагоддзяў былі зроблены асноўныя паркавыя пасадкі. Змяненні на тэрыторыі старажытнага гарадзішча працягваліся і ў далейшым, у тым ліку і ў наш час.

Старажытны культурны пласт, той слой, які так цікавіць археолагаў, здавалася, быў трывала і назаўсёды пахаваны глыбока ў зямлі.

Але колькі б гадоў ні прайшло, што б ні здаралася, цікавасць да вытокаў горада над Сожам не пакідала мясцовых энтузіястаў, археолагаў і краязнаўцаў. І вось летась на тэрыторыі парку пачаліся раскопкі. Трэба сказаць, што археалагічныя даследаванні праводзіліся ў Гомелі і раней. Першым, хто зрабіў іх, быў І. Юшчанка ў 1926 годзе. У 1975 годзе ў Гомелі працавала археалагічная экспедыцыя на чале са стар-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**НА ЗДЫМКАХ: агульны выгляд археалагічнага раскопу 1987 года; кутох «старога горада». Капліца (1889 год) — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.**

**Фота І. ЕРМАЧЭНКІ.**





## ВАТАН— ЗНАЧЫЦЬ РАДЗІМА

З кожным годам пашыраюцца культурныя сувязі паміж Савецкім Саюзам і Дэмакратычнай Рэспублікай Афганістан, у тым ліку літаратурныя. Пацвярджэнне таму — творчыя кантакты беларускіх пісьменнікаў з афганскімі калегамі.

Некалькі гадоў назад пабываў у Афганістане Анатоль Грачанікаў. Сустрэчы на гераічнай зямлі не толькі падказалі тэмы новых твораў, але і навялі на думку пазнаёміць з братняй літаратурай беларускага чытача. Яна знайшла сваё ажыццяўленне ў кнізе «Ватан — значыць Радзіма», якую выпусціла выдавецтва «Юнацтва».

Змест гэтага зборніка, які адрасуецца дзецям, склалі перакладзеныя А. Грачанікавым вершы адзінаццаці сучасных афганскіх паэтаў. Прадстаўнікі сярэдняга і малодшага пакаленняў, яны расказваюць аб зменах, якія адбываюцца на іх роднай зямлі, апяваюць хараство свайго горнага краю, дружбу народаў. І, вядома ж, прысвячаюць прачулыя паэтычныя радкі Леніну. Прадстаўлены таксама творы Асадула Хабіба, Абдулы, Найбі, Сулеймана Лаека і іншых аўтараў.

У прадмове «Рэвалюцыі песняры» А. Грачанікаў зазначае: «Новая афганская літаратура, у тым ліку для дзяцей і юнацтва, прасякнута высокім аптымізмам і жыццялюбствам. Літаратура сённяшняга Афганістана служыць дружбе і баявому адзінству ўсіх народаў зямлі, кліча іх на барацьбу за набліжэнне цудоўнай будучыні, за шчасце ўсіх дзяцей на планеце».

«Ватан — значыць Радзіма» — не першы зборнік, якім выдавецтва «Юнацтва» знаёміць сваіх чытачоў з жыццём Афганістана.

**К. ФЕДАСЕЕЎ.**

### РУСКА-КАРЭЙСКІ І КАРЭЙСКА-РУСКІ СЛОЎНІК У АДНЫМ ТОМЕ

## СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ ВЫДАЎЦЫ

Маскоўскае выдавецтва «Русский язык» і пхеньянскае выдавецтва «Навука і энцыклапедыя» ажыццявілі сумеснае выданне руска-карэйскага і карэйска-рускага слоўніка ў адным томе.

— Выдавецтва «Русский язык» выпускае падручнікі для іншаземцаў, якія вывучаюць рускую мову як у Савецкім Саюзе, так і за мяжой, а таксама размоўнікі і слоўнікі, — гаворыць намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Нэлі Сямёнава. — Усяго каля трохсот назваў у год на 30—35 мовах народаў свету.

Яшчэ ў 1976 годзе сіламі вучоных Інстытута ўсходазнаўства АН СССР і Інстытута мовазнаўства Акадэміі грамадскіх навук КНДР быў падрыхтаваны вялікі карэйска-рускі слоўнік у двух тамах. Ён і зараз карыстаецца вялікім попытам у нашых краінах. Таму, калі карэйскае выдавецтва «Навука і энцыклапедыя» ў 1985 годзе звярнулася да нас з прапановай падрыхтаваць сумеснымі намаганнямі руска-карэйскі і карэйска-рускі слоўнік у адным томе, мы ахвотна на яе адгукнуліся.

Асноўнымі аўтарамі слоўніка з савецкага боку выступілі карэязнаўцы Юрый Мазур і Віктар Маздыкоў, якія падрыхтавалі руска-карэйскі раздзел выдання, а карэйска-рускі склалі карэйскія вучоныя Ко Хён, Ю Ён Голь і іншыя.

Слоўнік прызначаны ў першую чаргу для вучняў і ўключае найбольш ужывальную лексіку рускай і карэйскай моў — па 25 тысяч слоў у кожным раздзеле. У ім шмат фразеалагічнага матэрыялу — прыказак, прымавак.

Акрамя сумеснай работы над слоўнікамі мы вядзём перагаворы аб выпуску падручніка рускай мовы для карэйцаў. У яго аснову прапанавана пакласці шырока вядомы падручнік «Руская мова для ўсіх», які выпускае наша выдавецтва. У разнастайных мадыфікацыях ён выдаецца для многіх краін і заваяваў прызнанне ва ўсім свеце.

Праграма супрацоўніцтва нашага выдавецтва з карэйскімі калегамі на бліжэйшы час вельмі насычаная. Несумненна, яна будзе мець працяг і ў далейшым. У СССР здаўна існуе цікавасць да карэйскай мовы, зараз павысілася цікавасць да вывучэння рускай мовы ў КНДР, і мы гатовы садзейнічаць таму, каб як мага больш вучэбнай і даведачнай літаратуры з'явілася ў савецкіх і карэйскіх чытачоў.

**Таццяна СІМБІРЦАВА.**

## *ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

### ПРЫСВЕЧАНЫЯ Д. ШАСТАКОВІЧУ

*У Ленінградзе прайшлі традыцыйныя чытанні, прысвечаныя жыццю і творчасці Д. Шастаковіча. Штогод яны праводзяцца напярэдадні дня нараджэння кампазітара ў Кансерваторыі імя Рымскага-Корсакава. У сёлетніх, дванаццатых чытаннях, пасляхова выступіў фартэпіянны дуэт Белдзяржфілармоніі — Ніна Цёмкіна і Валерый Баравікоў. Цікавасць выклікала навуковае паведамленне Н. Цёмкінай, якая расказала аб своеасаблівых фартэпіянных транскрыпцыях маладомых твораў Д. Шастаковіча, што стварылі ўдзельнікі дуэта. Знаўцы творчасці кампазітара, музыканты і шматлікія слухачы цёпла прынялі выкананне беларускім дуэтам апрацовак сюіты з оперы «Казка пра папа і пра работніка яго Балду» і танца з балета «Залаты век».*

### ВЕРНІСАЖ У СМАЛЕНСКУ

*Больш трохсот твораў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прадстаўлена на выстаўцы мастакоў Гродна і Панявежыса, якая адкрылася ў Смаленску. Асобае месца ў экспазіцыі адведзена работам беларускіх мастакоў шклозавода «Нёман» Л. Мягковай, Ю. Спясіўцава і іншых майстроў.*

### ГУЧЫЦЬ АРГАН

*У Кіеве ў рэспубліканскім Доме арганнай і камернай музыкі завяршыўся фестываль арганістаў з саюзных і аўтаномных рэспублік, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.*

*Пасляхова выступаў саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Канстанцін Шарой. Яго праграма — «Французская арганная музыка» — атрымала высокую ацэнку журы і слухачоў.*

### БЕЛАРУСКАЯ КАРЫКАТУРА У ВАРШАВЕ

*У сталіцы Польшчы адкрылася выстаўка беларускай карыкатуры і сатырычнага малюнка, арганізаваная часопісам «Вожык» па плану супрацоўніцтва з польскім сатырычным часопісам «Шпількі». Яна дэманструецца ў клубе культуры аднаго з буйнейшых рабочых раёнаў — Варшава-Воля і прымеркавана да мерапрыемстваў, прысвечаных 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.*

*З творамі беларускіх сатырыкаў пазнаёміліся ўжо тысячы варшаўян. Аб вернісажы расказалі цэнтральныя, мясцовыя газеты і тэлебачанне. Прэса адзначае тэматычную актуальнасць, сатырычную завостранасць і ўзросшае ў параўнанні з папярэдняй выстаўкай прафесіянальнае майстэрства беларускіх мастакоў-карыкатурыстаў.*

### ДЗЕНЬ ЦЫРКА

*У Гомелі прайшло свята — «Дзень цырка». Былі праведзены конкурс малюнкаў на асфальце «Мы любім цырк», творчыя сустрэчы вядучых артыстаў новай праграмы Гомельскага цырка «Свет адкрытых сэрцаў» са школьнікамі горада, фотавыстаўка «Майстры савецкага цырка». Па вуліцах горада прайшла цыркавая кавалькада, запрашаючы жыхароў і гасцей Гомеля на вялікае цыркавое прадстаўленне, якое адбылося пад адкрытым небам. У ім удзельнічалі не толькі прафесіяналы, але і артысты народнага цырка шклозавода імя Ламаносава.*

### НА СЦЭНЕ—«ЯКШАГАНА»

*З вялікім поспехам прайшлі ў Віцебску выступленні традыцыйнага тэатра «Якшагана» з Індыі. Якшагана — адна з найбольш старажытных і самабытных форм тэатральна-танцавальнага мастацтва Індыі. Асноўная тэма прадстаўленняў «Якшаганы» — перамога дабра над злом, справядлівасці над несправядлівасцю, багоў над дэманамі і г. д.*

### ГОСЦЬ З ЧЫЛІ

*З мэтай збору матэрыялаў для кнігі пра Савецкі Саюз Беларусь наведаў прагрэсіўны пісьменнік з Чылі Пабла Унезус.*

*П. Унезус — уладальнік выдавецтва «Эдзітора нуова генерасьён», аўтар шэрагу кніг па палітычных пытаннях. Ён прыхільна і з вялікай цікавасцю ставіцца да нашай краіны, прымаў удзел у форуме «За бяз'ядзерны мір, за выжыванне чалавецтва».*

